# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 16 (581) ГОД XII    16 КРАСАВІКА 1967 г.    ЦАНА 60 гр.




*Яўгіння Гермала, прадзільшчыца-перадавік фастаўскага камбіната, сярод «стыхіі» шпулек. На стар. 5 чытайце «Іх і яе свята».* Фота А. Карпюк

## БГКТ

### ЧАРГОВЫ ПЛЕНУМ ГП

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ вырашыў склікаць **на 16 красавіка г.г.** чарговы **IV Пленум ГП.** Парадак дня прадбачвае наступныя тэмы:

1) Месца БГКТ у рэалізацыі пастановы Прэзідыума ВРН № 62/503/66 ад 29. XII. 1966 г.

2) Справаздача з рэалізацыі заданняў прыдзеленых паасобным членам ГП.

### У ПРЭЗІДЫУМ ГП

31 сакавіка г.г. адбыўся ў Бельску выязны Прэзідыум ГП БГКТ. Прэзідыум правёў ацэнку працы Бельскага аддзела. Звернута ўвагу на тое, што аддзел мае добрыя ўмовы працы таму, што беларускае насельніцтва пражывае кампактна. Мае ён таксама магчымасць абаперціся на шырокім кругу беларускай інтэлігенцыі пражываючай у Бельскім павеце. Вялікую ролю адыгрывае беларускі ліцэй, які заўсёды ўключаецца ва ўсе пачынанні аддзела. Культурную дзейнасць у горадзе, ды і не толькі, узначальвае таксама 50-асабовы хор, які існуе пры аддзеле.

Недахопы ў працы аддзела ў многім былі звязаны з тым, што інструктар быў заняты навукай, і таму арганізацыйная праца і абслуга гурткоў былі занядбанымі. Зараз аддзел вырашыў, паводле рэальных магчымасцей, што кожны гурток БГКТ будзе наведаны адзін раз на квартал. Прэзідыум ГП падняло таксама пастанову аб тым, што **адміністрацыя БГКТ будзе працаваць у панядзелкі да 17 гадзіны, а ў суботы да 13.**

### СУСТРЭЧА ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

Па ініцыятыве Праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку 31 красавіка г.г. адбылася **сустрэча беларускай**

**(Працяг на стар. 5)**

## ЛЮДЗІ і ЧАС

Толькі больш-менш часу прасядзеў у студні, а больш за ўсё ў студнях Ёзік Дарафеюк са Стараберазова. За гэты час пабудаваў ён на Гайнаўшчыне і паза яе межамі звыш 500 студняў. Дарафеюк дасканалы спецыяліст у сваёй даволі незвычайнай прафесіі. Да капання студняў наймаюць яго ахвотна не толькі гаспадары, але і дзяржаўныя прадпрыемствы. Мае свае ўласныя метады будавання студняў, метады вельмі выдатныя і талковыя, якія выпрацаваў сам па сабе і якія расславілі яго на




ўсю аколіцу.

Дзядзька Дарафеюк — чалавек арыгінальны з кожнага боку, таксама і са свайго знешняга выгляду: носіць ён доўгую, патрыярхальную бараду.

— Барада дадае чалавеку сур'ёзнасці, — тлумачыць. — Чым даўжэйшая барада — тым карацейшы язык, і чалавек менш лапоча бесталковіцы.

Трэба сказаць праўду: Дарафеюк ніколі не быў няўклюдай. Наадварот, рашучасць і зацятасць плыла заўсёды ў яго крыві. У 1915 годзе Дарафеюку было 10 гадоў. Адзінокая маці вязла яго ў глыб Расіі, у «бежанства» — як тады гаварылі. Здарылася, што маці адлупцавала маладога Ёзіка за нейкія там псоты. Той, раззлаваўшыся, выбег з вагона і ўсеўся на рэйках чыгункі. Забрала яго адтуль чыгуначная ахова і завяла ў памяшканне вакзала. У гэты момант адышоў поезд, у якім знаходзілася маці. Бедная не знайшла ўжо сына: памерла недзе, невядома дзе, калі і як. Сын тым часам трапіў перад усім у нейкі прыют, а маючы 13 гадоў — у рэвалюцыйны флот. Дапамагаў карабельнаму шаўцу ладзіць боты маракоў.

Кончылася вайна, кончылася рэвалюцыя. Дарафеюк, як і ўсе нашыя сяляне, вярнуўся на радзіму. Пасяліўся ў Стараберазове, хаця сам быў родам з Мора. У Стараберазове Дарафеюк знайшоў сабе жонку і тут жа загаспадараваўся. У Стараберазове насталі бурныя часы: развівала рэвалюцыйную дзейнасць «Грамада» і КПЗБ, працавалі здраднікі і правакатары, дзейнічалі мясцовыя зладзеі. Ёзік Дарафеюк пастанавіў маліцца. Маліўся заўзята, з заўзятасцю містыка, аскета. З вечара, дзень у дзень, дзядзька Дарафеюк біў перад іконаю 500 паклонаў, потым стоячы на каленях здрымнуў гадзінку, прачнуўшыся ізноў да рання біў паклоны і маліўся. Еў дзядзька толькі два разы ў дзень і то поснае. Так пражыў роўна 9 гадоў. Чым больш маліўся, тым больш пераконваўся ў існаванні загробнага жыцця і ў вялікай Божай місіі «Краснай» Арміі і Чырвонага флоту, служэнню якога аддаў сваё дзяцінства.

Успыхнула савецка-нямецкая вайна, прайшоў фронт, аставіў на Стараберазоўскіх палях адзінокія целы савецкіх байцоў — краснаармейцаў. Байцоў прысыпалі зямлёю без пашаны і годнасці. Дарафеюк пачуўся ў ролі міфічнай Антыгоны, якая хавала з годнасцю цела брата насуперак пануючым варварскім законам. Пайшоў тады дзядзька ў поле, каб, як кажа, абрад зрабіць байцам магілы і паставіць над імі крыжыкі. Насіўся нават з намерам пабудаваць на

**(Працяг на стар. 4)**






Калі хоць раз жыццё імкліва
Цябе ўзнясе на п'едэстал,
Ты не лічы ўсё гэта дзівам,
Суцiш бравурны хор пахвал.

Спыні фантаны слоў прарочых —
Без іх нам клопату стае.
Знай:
хто з хвалою лезе ў вочы —
За вочы першы аплюе.

І столькі чорнай ганьбы ўзверне
Пры першым промаху ў жыцці,
Што нават ісціне, як зерню,
Нялёгка будзе прарасці.

Ты не спяшайся гнаць няласку,
Суровасць шчырую людзей —
Сам заўважаць умей,
дзе маска,
А дзе без маскі дабрадзей.

Знай, што на кволенькіх падпорках
Хлусня будуе п'едэстал...
Прымай лепш праўды чэмер горкі,
Чым вечна — патаку пахвал.

**Алесь Бачыла**

## УЖО ХУТКА:

Шэф аддзела III-А павесіў трубку, закурыў і, сеўшы ў крэсла насупраць Попкі, загаварыў:

— Слухайце мяне ўважліва: цяпер не першы год вайны, а чацвёрты. Час паскорыўся, і ў нас няма магчымасці трымаць вас у камеры і распрацоўваць дакладна. Для нас ясна, што вас сюды закінулі, уся ваша гісторыя з Попкам была б тэмай для гутаркі, калі б не знайшлі мы — абсалютна выпадкова — парашут. Працягвайце слухаць мяне ўважліва: мне наогул не трэба доказаў вашай віны, каб пусціць вам кулю ў лоб, хоць бы таму, што вы славянін. Але вы не проста славянін, вы рускі парашутыст. Я паспрабую з вамі папрацаваць. Пару дзён вас будуць катаваць — больш у мяне проста няма часу, а потым або вы зломіцеся, або мы вас ліквідуем. Вырашайце. Альтэрнатыва адна: праца з намі. Праўда, якую вы нам адкрыеце, можа быць дастатковай гарантыяй вашага жыцця. Заўпірацца вам неразумна: ігра прайграна, у жыцці ўсяк бывае, як ні крыўдна.

Попка хруснуў пальцамі.

— Дазвольце сігарэтку...

— Курыце, курыце, — сказаў доўгі гестапавец. — Сігарэты сапраўды добрыя.

— Дзякую.

Доўгі пстрыкнуў запальнічкай, даў Попку прыкурыць і адыйшоў да акна. Сеў на падаконнік і адчыніў фортку. У кабінет уварваўся свежы вецер, прабег па паперах, якія ляжалі на стале, прыпадняў іх і зноў апусціў на месца. Захлопалі белыя шторы, затрашчала карта на сцяне. Доўгі сказаў:

— Сапраўды, выпадак рэдкі: усё відаць з самога пачатку, няма чаго даказваць.

— Добра, — сказаў Попка, — добра. Калі прайграў, значыць, прайграў. Так, сапраўды, ніякі я не Попка. Я маёр Чырвонай Арміі з ваеннай разведкі...




З героямі рамана Юльяна Сямёнава «Маёр Віхор» чытачы «Нівы» пазнаёмяцца за два тыдні. Раман прысвечаны гераічнай барацьбе савецкіх разведчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. У цэнтры расказу смелая аперацыя па выратаванню Кракава, які гітлераўцы планавалі цалкам знішчыць.

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ВІЗІТ У БАЛГАРЫЮ

Партыйна-ўрадавая дэкларацыя Польшчы з **Уладзіславам Гамулкам і Юзэфам Цыранкевічам** прабывала ў Балгарыі, дзе падпісана дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве. Мэта, сэнс і палітычная істота гэтага дагавору зусім падобная да тых, якія Польшча падпісала нядаўна з ГДР і Чэхаславакіяй.

### НАРМАЛІЗАЦЫЯ АДНОСІН

Адносіны паміж сацыялістычнымі краінамі і ФРГ з'яўляюцца на парадку дня бонскага ўрада. Урад ФРГ зараз змяніў тактыку гэтай палітыкі выступаючы з лозунгамі суіснавання. Але гэтая палітыка суіснавання з'яўляецца своеасаблівай т. зв. **суіснаваннем сэлектыўным,** што абазначае, што з некатарымі дзяржавамі хоча нармалізаваць адносіны, з іншымі не, з іншымі суіснаваць лепш, з іншымі горш. Хоча пароніць, падзяліць, падарваць адзінства дзяржаў удзельніц Варшаўскага дагавору.

«Нармалізацыя адносін наступіць тады, — сказаў У. Гамулка ў Сафіі, — калі ўрад ФРГ адкажацца ад імкненняў да змены граніц у Еўропе, узбраення Бундэсвера тэрмаядзернай збрвяй і адкажацца ад выключнага прадстаўлення ўсяе Германіі. Нармалізацыя адносін між абедзвюма германскімі дзяржавамі — між ФРГ і ГДР — гэта асноўная ўмова нармалізацыі адносін між ФРГ і ўсімі сацыялістычнымі дзяржавамі».

### Э. ОХАБ У РЫМЕ

Старшыня Савета Дзяржавы ПНР **Эдвард Охаб** прабываў з афіцыяльным візітам у Італіі. У часе сустрэчы з прэзідэнтам Сарагатам гаварылася, між іншым, аб тым, што Італія намерана і ў далейшым уносіць свой уклад у «вялікі дыялог».

Неабходна дадаць, што Польшчу і Італію спалучаюць мірныя прапановы, якія ініцыююць абедзве дзяржавы.

### ФРАНЦУЗСКАЯ АТАМНАЯ ПАДВОДНАЯ ЛОДКА

Першую французскую атамную лодку «Рэдутабль» спушчана на ваду ў Шэрбуоы (на паўночным узбярэжжы Францыі). Над стварэннем гэтай лодкі, водазмяшчэнне якой 9 000 тон, а даўжыня 129,7 метра, працавала 2 500 французскіх інжынераў, тэхнікаў, рабочых.

### У СССР

Каментатар ТАСС Іван Арцёмаў падае, што ў СССР амаль закончылася падрыхтоўка да пераходу некалькі сот саўгасаў на поўны гаспадарчы разлік. Дагэтуль саўгасы не карысталіся шырэйшай аўтаноміяй. Напрыклад, страты адных можна было пакрываць даходамі іншых саўгасаў.

### ЗМЕНА КАМАНДУЮЧАГА Ў В'ЕТНАМЕ?

Інфармацыйныя агенцтвы паведамляюць, што ў наступным месяцы магчыма адбудзецца змена камандуючага ўзброенымі сіламі ЗША ў Паўднёвым В'етнаме. Так, месца генерала Уэстморленда рыхтуецца заняць намеснік начальніка штаба арміі ЗША генерал Клейтан Абрамс, які «вызначыўся» два гады назад у Дамінікане. Уэстморленд мае быць начальнікам штаба арміі ЗША. А. К.

## БССР

### ФІНСКАЯ

У сувязі з XI-ым тыднем дружбы савецкай і фінскай моладзі пабывала ў Мінску фінская маладзёжная дэлегацыя на чале з Укі Воуцілайненам, намеснікам старшыні Дзяржаўнай камісіі па справах моладзі, член фінскага парламента.

Фінскія госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, былі прыняты ў Вярхоўным Савеце БССР і ў Цэнтральным Камітэце камсамола Беларускай Рэспублікі.

### ЧЭМПІЯНАТ

Чэмпіянат Еўропы па класічнай барацьбе ўпершыню адбудзецца на савецкай зямлі, менавіта, у Мінску. Выбар сталіцы Беларусі з'яўляецца своеасаблівым прызнаннем заслуг беларускіх спартсменаў у развіцці гэтага віду спорту. Беларускія майстры спорту з'яўляліся чэмпіёнамі Алімпійскіх гульняў.

Чэмпіянат Еўропы будзе праводзіцца ў Мінскім Палацы спорту ў днях 19, 20 і 21 мая г. г. На чэмпіянат у Мінску прыедзе больш чым сто замежных і савецкіх журналістаў.

За зборную каманду Савецкага Саюза будзе выступаць беларускі майстар спорту Уладзімір Сусіч.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

Мінскі абласны абком Камуністычнай партыі Беларусі правёў навукова-метадычную канферэнцыю па вывучэнню праблем палітычнай эканоміі. У канферэнцыі прынялі ўдзел сакратары райкомаў і гарадскіх камітэтаў КПБ.

### АКТЫЎ

У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя Леніна адбылася канферэнцыя камсамольскага актыву, прысвечаная вынікам IV пленума ЦК камсамола Беларусі.

З дакладам на канферэнцыі выступіў першы сакратар ЦК камсамола Беларусі Г. Жабіцкі.

Выступаючыя ў дыскусіі глыбока абмеркавалі пытанні студэнцкага жыцця, узнімалі праблемы павышэння ўзроўню работы камсамольскай арганізацыі ўніверсітэта па ідэйна-палітычнаму выхаванню студэнтаў.

### ФЕСТЫВАЛЬ

У Брэсце адбыўся фестываль мастацтва, на які прыехалі дзеці з усіх саюзных рэспублік. Фестываль адкрыўся ў Брэсцкай крэпасці-герої. Адбыліся сустрэчы з работнікамі мастацтва Брэста.

На аглядзе юных талентаў выступалі госці з Ліпецка, Ерэвана, Каўнаса, Тарту, Ленінабада, Бельца і іншых гарадоў краіны.

### ПЕРШАЙ

Споўнілася дваццаць пяць гадоў з дня стварэння Першай беларускай партызанскай брыгады пад камандваннем легендарнага Міная.

На радзіме Міная, у вёсцы Пудоць, адбылася сустрэча былых партызан з моладдзю. У бібліятэках адкрыліся выстаўкі літаратуры, якія расказваюць аб партызанскім руху ў Беларусі, аб слаўнай Першай беларускай партызанскай брыгадзе. (С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПРАБЛЕМЫ АДМІНІСТРАЦЫІ

Кіраўнік Бюро Рады міністраў мін. Вячорак выказаўся на тэму ўпарадкавання дзейнасці органаў дзяржаўнай адміністрацыі. Міністр заявіў, між іншым, што ў прэзідыумах павятовых радаў 34 працэнты працаўнікоў мае эдукацыю толькі пачатковую або няпоўную сярэднюю, а ў прэзідыумах грамадскіх радаў колькасць такіх працаўнікоў перавышае 80 працэнтаў. Дзеля павышэння кваліфікацыі працаўнікоў адміністрацыі ствараюцца ўмовы для далейшай іх адукацыі. У 1965—1966 гадах у агульнаадукацыйных і прафесіянальных школах вучылася звыш 5 тысяч працаўнікоў прэзідыумаў, а 1250 асоб здабывала вышэйшую адукацыю.

### У СЕЙМЕ

14 IV пачалося 13 пасяджэнне Сейма. На парадку дня стаіць праект пастановы аб пракуратуры і праект пастановы аб гадзінах адкрыцця крамаў, рэстаранаў і пунктаў грамадскіх паслуг.

### НОВАЕ Ў ПРОДАЖЫ

Неўзабаве ў продажы паявіцца каля 20 новых мадэляў мэблі, новыя тыпы радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, а таксама новыя халадзільнікі, пыласосы і некаторыя іншыя прылады хатняй гаспадаркі.

### МІЛЬЁННАЯ ТОНА

Выслана ўжо за мяжу мільённую тону польскай серы. Галоўнымі купцамі нашай серы з'яўляюцца: Чэхаславакія, Аўстрыя, Швецыя, ФРГ і Італія. Сярод краін, якія экспартуюць серу, Польшча знаходзіцца зараз на пятым месцы ў свеце і на другім у Еўропе (пасля Францыі).

### КОНКУРСЫ

У сувязі з 50 гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі розныя ўстановы і арганізацыі краіны арганізуюць конкурсы на веды аб СССР, рэвалюцыі і савецкай літаратуры.

### З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ

Пастаноўлена, што чарговы XVI з'езд Саюза польскіх літаратараў адбудзецца 2 і 3 чэрвеня ў Кашаліне. Прыме ў ім удзел 120 літаратараў. У першым дню будуць яны дыскутаваць над справаздаўчымі дакладамі, а ў другім — над дакладам А. Ольхі аб праблемах масавай культуры.

### ЭКСПАРТ ВАГОНАЎ

Пачынаючы ад 1949 года Вроцлаўская фабрыка вагонаў (ПАФАВАГ) выэкспартавала **за мяжу** 30 тысяч чыгуначных вагонаў. Курсуюць яны, між іншым, на лініях Балгарыі, Чэхаславакіі, Галандыі, Індыі, Ірака, Югаславіі, Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі і Савецкага Саюза.

### ГАЗАПРАВОДЫ НА ВЁСЦЫ

Звыш 100 вёсак у Жэшаўскім ваяводстве карыстаецца ўжо газам. У мінулым годзе сяляне гэтага ваяводства пабудавалі ўласнымі сродкамі, карыстаючы з невялікай дапамогі дзяржавы, звыш 60 кіламетраў газаправодаў. Зараз даводзіцца газ да далейшых 26 вёсак. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ВІЗІТ ПАСЛОЎ

На Беласточчыне пабывалі паслы, члены сеймавай камісіі лёгкай прамысловасці. Цікавіліся яны асабліва ўмовамі працы рабочых фастаўскага баваўна-апрацоўчага камбіната.

### ПЕРШАМАЙСКІ КАМІТЭТ

На нарадзе, якая 9 красавіка адбылася ў Ваяводскім камітэце ПАРП, устаноўлена Ваяводскі першамайскі камітэт. Старшынёю яго з'яўляецца I сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч. Камітэт састаўляюць прадстаўнікі партыйных, маладзёжных грамадскіх арганізацый, а таксама дзяржаўных і гаспадарчых устаноў, войска і міліцыі. Разам 39 асоб, а ў тым ліку галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі.

### ДНІ АСВЕТЫ

Прэзідыум ВРН у Беластоку паклікаў ваяводскі камітэт святкавання дзён «Асветы, кніжкі і прэсы», у які ўвайшло 40 асоб. Старшынёю камітэта з'яўляецца намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Л. Ахоцкі. Сёлета вясенняе свята культуры ўстаноўлена на дні ад 3 да 21 мая. Будзе яно ў асноўным прысвечана ажыццяўленню пастаноў Кангрэса польскай культуры і 50-годдзю Вялікага Кастрычніка.

### НОВАЯ ШКОЛА

Жыхары вёскі Філіпы ў Бельскім павеце задумалі пабудаваць грамадскім чынам у сваёй вёсцы школу — святліцу. Яе кошт ацэньваецца на 200 тысяч злотых. Сваім грамадскім чынам рашылі яны адзначыць 50-ую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі і Першамай. Хацелі б школу сваю назваць іменем генерала Свярчэўскага.

### КОНКУРС

Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі супольна з аддзелам сельскай і лясной гаспадаркі ВРН аб'явілі конкурс на пасадку дэкаратыўных дрэвак у вёсках. На ўдзельнікаў конкурсу чакаюць узнагароды: I — 10 тысяч зл., II — 6 тыс. зл., III — 4 тыс. зл.

### ЛЕКАРСКІ ДЗЕНЬ

Устаноўлена новае прафесіянальнае свята — дзень працаўнікоў службы аховы здароўя. На Беласточчыне адзначаўся ён вельмі ўрачыста. 7 красавіка адбылося цэнтральнае ваяводскае ўрачыстае пасяджэнне ў прафсаюзным кінатэатры. Многія працаўнікі службы аховы здароўя атрымалі дыпломы, узнагароды і адзнакі, між іншым, адзнакі «Тысячагоддзя».

### СОЛТЫСЫ

У Сакольскім павеце працуе зараз 252 солтысы. Сярод іх шмат такіх, якія на сваіх пасадах без перапынку астаюцца ўжо па 20 год. Для прыкладу: Балеслаў Шчука з вёскі Шчукі і Браніслаў Геніюш з вёскі Верхедліна. Салтысуюць ужо ад 1945 года.

### З ХАДАРОЎКІ Ў ІНДЫЮ

Вучні пачатковай школы ў вёсцы Хадароўка на Дуброўшчыне сабралі шмат прадуктаў: кансерваў, круп, цукру і т. п., якія адправілі сваім сябрам у далёкую Індыю. Хадароўскія юнакі заклікаюць усіх вучняў Беласточчыны, каб ішлі іх следам. (вр)




NIEDZIELA 16. IV.

8.05 Politechnika TV; 9.40 „Śladami kpt. Cooka" — film; 10.40 „Requiem dla trzech milionów" — uroczystości z Oświęcimia; 13.00 „W starym kinie"; 13.50 „Przemiany"; 14.15 TV Teatr Lalek — B. Leśmian „Cudowna lampka Alladyna"; 15.15 Uroczysty koncert z okazji odsłonięcia pomnika Ofiar Oświęcimskich w Oświęcimiu; 16.15 PKF; 16.30 „Ludzie i zdarzenia"; 16.50 „Szklana niedziela"; 17.05 „Spotkanie z pisarzem" — Stefan Wiechecki; 17.30 „Szklana niedziela" (II); 17.40 „Ostatni miesiąc jesieni" — film fab. radz.; 19.00 „Szklana niedziela" (III); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Ojciec" — film tv pol.; 20.30 Słownik wyrazów obcych; 20.50 „Droga nadziei" — film fab. wł.; 22.30 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 17. IV.

16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Przygody Gapiszona"; 17.10 Dla młodych widzów: „Zwierzyniec domowy" odc. II; 17.30 „7 milionów młodych"; 17.45 „Gorąca linia"; 18.20 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Śladami wycieczki" — rep. film.; 20.20 Teatr TV: A. Strindberg „Ojciec"; 21.50 „Na półkach księgarskich"; 22.00 „Szlakiem obalonych drzew" — rep. film.; 22.15 Dziennik.

WTOREK 18. IV.

10.00 „Ranny w lesie" — film fab. pol.; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — J. Anouilh „Skowronek"; 15.25 Przysposobienie Rolnicze; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 „Zrób to sam"; 17.20 „Co dalej, ósma klaso?" odc. IV; 17.45 Telekram; 17.55 „Kwietniowa noc"; 18.35 Program historyczny; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Wózek" — film tv pol.; 20.30 „Na wielkim ekranie"; 21.10 „Ranny w lesie" — film fab. pol.; 22.25 Dziennik; 22.45 Politechnika TV.

ŚRODA 19. IV.

10.00 „Święty"; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Stany skupienia ciał"; 16.25 „Stosowanie herbicydów w zbożach"; 16.35 PKF; 16.45 „Pchła" — film CSRS; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Wszechnica TV: „Nowy lek"; 18.20 „Jazz w Filharmonii"; 18.50 „Czarcie złoto"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Pieśń o radości" — film radz.; 21.15 Mały Teatr TV: „Wyroku nie będzie" M. Patkowskiego; 21.10 „Światowid"; 21.40 „Święty"; 22.30 Dziennik.

CZWARTEK 20. IV.

11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Stanisław Moniuszko"; 16.00 TV Kurs Rolniczy: „Ochrona roślin oleistych i włóknistych"; 16.30 „Kiży" — film radz.; 16.40 Dziennik; 16.45 Kino Ptyś; 17.05 „Liga Entuzjastów Wakacji"; 17.35 „Tramp"; 17.55 „Klub dobrych gospodarzy"; 18.20 „Kontrasty" — koncert muzyki kameralnej; 18.50 „Dobry wieczór, jak minął dzień?"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Przerwana podróż" — film; 20.20 „Inspektor i noc" — film fab. bułg.; 21.50 „Refleksje"; 22.20 Dziennik.

PIĄTEK 21. IV.

10.10 „Człowiek z przeszłością" — film fab. radz.; 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Sprawiedliwa ocena"; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Prosty odbiornik radiowy"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Wyprawy Telewizyjnych Przyjaciół"; 17.30 „Przygody Robinsona Crusoe" — film fr.; 17.55 Wszechnica TV: „Niedyskrecja papirusów"; 18.25 „Wielokropek"; 18.50 „Między nami sąsiadami" — program w rocznicę podpisania polsko-radzieckiej umowy (Interwizja); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Program filmowy; 20.45 „Rozmowy o książkach"; 21.00 „Niespokojne szczęście" A. Lebiediewa; 21.45 Dziennik; 22.00 Magazyn Medyczny.

SOBOTA 22. IV.

10.00 „Ulica ubogich kochanków" — film fab. wł.; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Pojezierze Mazurskie"; 14.00 Uroczyste zebranie poświęcone rocznicy urodzin Lenina. Transmisja z Pałacu Zjazdów na Kremlu (Moskwa); 16.00 Program tygodnia; 16.20 Dla nauczycieli; 16.40 „Historia jednego zdjęcia"; 16.55 Dziennik; 17.05 „Konkurs 5 milionów"; 18.05 „Spotkania z przyrodą"; 18.20 „Po szóstej"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Studio Uno" — tv program rozrywkowy; 20.55 „Błękitny express"; 21.25 Dziennik; 21.40 Wiadomości sportowe; 21.50 „Ulica ubogich kochanków" — film fab. wł.




**14 kwietnia, piątek**

8.00 „Żywy trup". Teatr; 14.45 Program; 14.50 Film animowany dla dzieci; 15.00 Dla uczniów; 15.30 Dziennik pięciolatki; 16.00 Dziennik; 16.10 Klub filmowy; 16.50 Spektakl TV; 18.00 Sztafeta nowin; 19.00 Ludowy artysta ZSRR kompozytor W. Sołowiow-Siedoj; 20.00 Ludowy artysta BSRR S. Biryła; 21.10 Politechnika TV.

**15 kwietnia, sobota**

11.25 Program; 11.30 Dla przedszkolaków; 12.00 Festiwal twórczości dziecięcej; 12.45 Dla uczniów; 13.45 Film animowany dla dzieci; 13.55 Balet dla dzieci; 14.25 Spektakl TV; 15.40 „Radar"; 16.00 Telewizyjny teatr miniatur; 17.05 Turniej ciężarowców w Tbilisi; 17.20 Film TV; 17.45 „Jestem rodem z dzieciństwa". Film; 19.15 „Panorama Białoruska"; 21.10 Koncert.

**16 kwietnia, niedziela**

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Dla przedszkolaków; 9.30 Szkatułka muzyczna; 9.50 Dla uczniów; 10.30 Ludowy artysta BSRR J. Achremczyk; 11.20 Dla młodzieży; 12.20 Kwartet studencki Uniwersytetu Białoruskiego; 13.00 Dla żołnierzy; 13.30 Kiosk muzyczny; 14.00 Program dla rolników; 15.30 „Mity XX wieku"; 16.00 Spektakl TV; 16.50 Program muzyczny ;17.30 Klub filmowy; 18.30 Dziennik; 19.00 „Zdarzenie w pociągu". Film; 20.15 Śpiewa państwowy chór z Woroneża.

# ДАРАГІЯ ЛІЦЭІСТЫ!

Сённяшні нумар вашага «Клуба» выходзіць упершыню пасля нашай сустрэчы ў Галоўным праўленні БГКТ. Аднак ён не адрозніваецца амаль ад папярэдніх. Чаму? На гэтае пытанне хочацца адказаць некалькімі сказамі.

Першая і найбольш істотная справа гэта тое, што «Клуб» мае быць перш за ўсё вашым клубам, а не другой літаратурнай старонкай. Хочацца, каб вы тут маглі выказаць асабістыя, свае ўласныя думкі да сучаснасці, да будучыні. Цікавіла б вас, ліцэістаў, і старэйшых чытачоў, якія вашыя погляды на акружаючую рэчаіснасць: школу, дом, вёску, горад, ГРН, прадпрыемства, сельгасгурток, прафесію, вашу арганізацыю і інш. Не менш цікавымі былі б вашыя галасы ў справе апавяданняў напісаных ліцэістамі больш-менш у такі спосаб, як вы гаварылі ў часе сустрэчы.

А што мы маем? Ляжыць перада мною горба вашых пісем. У кожным канверце адно, два або і тры апавяданні. Адным словам кожны стараецца пісаць толькі апавяданні. Здараецца, што хтосьці з вас напіша адзін верш і хутчэй хоча апублікаваць. Так нельга. Самыя вялікія паэты і пісьменнікі так не пачыналі друкавацца. Перш за ўсё неабходна выэксплуатаваць усе свае магчымасці і тады можна звяртацца з просьбай аб друк. Аднак бачым сярод вас і здольных людзей, якія, калі над сабой папрацуюць салідна, у будучыні змогуць увайсці ў літаратуру. Каб не разачараваць усіх пішучых, хачу напомніць, што ёсць многа іншых спосабаў «валодання пяром». Маю на думцы публіцыстыку. Абсалютна не ўсе журналісты з'яўляюцца пісьменнікамі ці паэтамі, а міма таго іх артыкулы ці інфармацыі з ахвотай чытаем. Пасля семінара фактычна толькі Галіна Засім з Гайнаўскага ліцэя адгукнулася на наш заклік прысылаючы інфармацыі з жыцця школы.

Вельмі вас просім, пішыце шырока аб справах вам блізкіх і вядомых. А тыя, хто піша апавяданні, памятайце, што на




свеце ёсць многа апавяданняў добрых і ў той час уявіце, як павінна быць добрым вашае апавяданне, каб чытач ім зацікавіўся.

Чакаем на лісты, вашыя думкі і прапановы.

Апякун Клуба

P.S. Напішыце, што думаеце аб апавяданні Веранікі Леанюк з Беларускага ліцэя ў Бельску, якое сёння друкуем.




**«Матылёк»** з Гайнаўкі — Апавяданне пад загалоўкам «Расстанне» атрымалі. На жаль яго друкаваць не будзем, таму што яно слабое з мастацкага боку. Апавяданні — гэта не адзіны жанр, якім карыстаюцца людзі і таму раім табе паспрабаваць пісаць больш, а калі сапраўды апавяданні табе не будуць выходзіць, пастарайся пісаць кароценькія інфармацыі аб жыцці школы, сяброўак, калег.

**Міша Тэлешэўскі** — Не думаем, каб вершы табе добра выходзілі, аб чым сведчыць «Эх, радзіма родная». Сапраўды цяжка судзіць кагосьці пасля напісання аднаго верша. Калі маеш ахвоту, дык напішы іх многа, перачытай сам, дай калегам ці настаўніку, і калі тыя не зацікавяцца, проста пакінь пісаць вершы. Апавяданне «Сяброўства» недапрацаванае.

**«М»** — Гайнаўка — «І так бывае», як сам пішаш, апавяданне аб трагічным каханні абсалютна не адказвае сучаснай рэчаіснасці, хаця выпадак такі мог быць. Проста ў апавяданні няма мастацтва.

**М. Петручук** — «Ці вернецца» — нам незразумелае. У некаторых месцах ты яго заблытала. Пішы на тэмы больш блізкія табе.

**В. Леанюк** — Твае матэрыялы нам падабаюцца. Усе атрымалі. Цяжка сказаць, ці ўсе будзем друкаваць.

Прачынаецца сонца, а з ім усё. Абудзіўся рух, гоман, радасць жыцця. Няспынным ланцугом імкнуць аўтамашыны то ў адзін, то ў другі бок. З-за іх цяжка прайсці праз вуліцу. Замінаюць. Спыніць бы іх, затрымаць хоць на хвілінку. Галава кружыцца. Урэшце можна перабегчы.

На тратуарах людзі. Яны недзе спяшаюць. Абмінаюцца, абганяюцца, ідуць і вясёла гамоняць, а некаторыя смяюцца... Ляпаюць дзверы дамоў, магазінаў і ўсюды шум, усюды людзі. Поўныя магазіны, вуліцы. Адкуль яны бяруцца. Некаторыя ўлазяць у вочы па некалькі разоў і заўсёды недзе спяшаюць. З торбамі, заладаванымі сеткамі, часта пазіраюць на гадзіннікі. Ногі іхнія ідуць махінальна без адпачынку, каб далей, каб хутчэй.

Аб чым яны думаюць, чым захапляюцца? Восень жа цяпер...

Голыя дрэвы, толькі па некалькі за-

## ДАЛЕЙ АД ГОРАДА

лацістых лісточкаў. Апошнія валяюцца на тратуарах, змятыя, запыленыя, сцертыя, непрыгожыя. Вецер гоніць іх па вуліцы, аж пападуць пад колы аўтамашын. Кветкі на траўніках пасохлыя, не вабяць вока, а адпіхаюць позірк на бок. Ківаюць сцяблінкамі ў такт ветру, у такт праязджаючых аўтамашын. Колькі іх тут праходзіць. Клаксоны візжаць, як нанятыя, недзе далёка, блізка і далей. У галаве такі ж шум і гул. Ногі пачынаюць ціснуць і балець. У руках робіцца цяжкай пакупка. Вецер закідае валасы ў вочы, няма як адгарнуць. Пот выступае на ілбе, кашуля ліпне да цела. Праедзе машына, і туман пылу лезе ў вочы, рэжа балюча, пачынае крахцець у зубах. Апаноўвае бяссільная злосць. Гэта ж пекла! І з'яўляецца адна думка, каб хутчэй уцячы з горада! Ногі самыя нясуць на станцыю.

Знаёмая дарожка. Тут менш людзей, а больш дрэў — нешта з роднага, блізкага. Яшчэ некалькі крокаў і шэры будынак касы. Акенца.

— Самы ранні? — здзіўляецца касірша, кусаючы асцярожна яблык, нібы ён драгацэнны. — Дзесятая дзесяць, за пяць мінут.

Кідаеш «Прашу», плоціш і, схапіўшы білет, «ляціш» шукаць аўтобуса. Вось ён, стаіць бела-галубы. З вялікімі вокнамі, мяккімі крэсламі. Ён павязе ў зацішша роднае вёскі.

Вераніка Леанюк
Бел. ліцэй у Бельску



## Пераходны кубак у нашай школе

**Галіна Засім** вучаніца IX б класа гайнаўскага ліцэя піша:

— У нашай школе ўжо даўно існуе гурток СКС (Школьны спартыўны гурток). Апякуюцца ім настаўнікі **Калпа** і **Врублеўскі.** Асобную групу прадстаўляюць дзяўчаты, а асобную хлопцы. Аднак найбольш славы школе прыносяць дзяўчаты. Дзякуючы вельмі добрай трэніроўцы часта выязджаюць яны на міжшкольныя спаборніцтвы і кожны раз займаюць перадавыя месцы.

На першае месца з групы трэба вылучыць **Тамару Шыманскую.** Яна кожны дзень прысвячае час на трэніроўку і дзякуючы таму ўжо атрымала многа дыпломаў і медаляў за першае месца ў спаборніцтвах.

Нашыя дзяўчаты далей заўзята змагаюцца за кубак, які зараз знаходзіцца ў нашай школе, але за яго змагаюцца і каманды іншых школ. Аднак я думаю, што баявая група дзяўчат будзе ўсімі сіламі змагацца за тое, каб кубак астаўся ў нашай школе.

«Клуб» ахвотна прыйме на сваю старонку здымак баявой каманды спартсменак вашай школы. Чакаем.

Дзяўчына адлажыла кніжку. Міжвольна працягнула руку да акна. Белая фіранка лёгкімі маршчынамі лягла між пальцаў. Ноч цёмнымі плёнкамі ахутала зямлю. Нічога не відаць. Рука апала. Зноў пакой поўны святла, цеплыні, галасоў. На стале ляжыць разгорнутая кніжка. Чытаць адпала ахвота. Дзяўчына ўзялася пісаць, нічога не выходзіць.




Задумалася. Апранулася і выйшла на вуліцу. Марозны вечар залатымі зоркамі пачаў міргаць дзяўчыне.

— Чаго, моў, такая сумная?

У канцы цёмнай сцяны лесу заіграла вялікая жоўтая зорка. Бляск яе быў цёплы, ён радаваў. Іншыя зоркі на небе прыціхлі, пакрыліся, больш не ўглядаліся з радасцю, а тая грэла дзявочае сэрца, няведамай нікому цеплынёў. Цяжка здаралася дзяўчыне пражыць дзень поўны людзей, размоў, гукаў, а калі вярталася дамоў, адразу шукала далёкага аганька. Часта гадала па ім будучыню дня; калі ўставала і было яшчэ цёмна, глядзела ўбок лесу, думаючы: свеціцца — добра, няма — дрэнна!

Прысядала ўвечары на лавачцы перад домам, сярод кветак, у цяньку дрэў і чакала. Бывала, вось здаецца, далёкі аганёк заірдзіць, загамоніць з ёю, будзе іграць з маладымі лісточкамі грушы, хавацца за астраколы і гарэць, гарэць. Але рэдкімі бывалі вечары, калі аганёк гаварыў з дзяўчынай, аб вядомых толькі ёй справах. Тады было добра і ўзірацца на паяснеўшыя зоры, на месяц малады, слухаць салаўя залівачагася на ліпе. Кветкі пахлі нейкім асаблівым пахам — толькі ёй. Вясна непрыкметна ўцякла. Гарачае лета заняло яе месца. Штораз цішэй квакалі жабы. Аганёк загараўся рэдка, аж знікнуў зусім на некалькі тыдняў. Было цяжка пражыць гэты час. Слухаючы спеву птушак, яна часта сядзела далёка за поўнач. Дзіўная дзяўчына, закахалася ў агеньчыку. Мо ён быў часткай яе думак?

«Маруся»
Бел. ліцэй у Бельску



### АСЕННІ МЕСЯЦ

На дварэ холадна, мокра і сумна.
Лістапад —
Пара апошніх асенніх дажджоў,
Поле шэрае,
Лес у задуме стаіць пахмурна.
Неба бурае.
Асенні дождж, па мокрых шыбах ціха звініць
І хлюпоча.
Нязменна кропля кроплю гоніць.
Кроплі дажджу падаюць і разбіваюцца на вокнах.
Вокны плачуць — сляза са слязою гамоніць,
Паглядзі ты, паглядзі.

**В. Салавянюк**
Бел. ліцэй у Гайнаўцы

**Памятная здымка з першай сустрэчы Клуба ліцэістаў. На першым плане сядзяць: (справа) Ада Чэчуга — прадстаўнік выдавецкага аддзела ГП, Ілья Ілька - Бернат — настаўнік беларускай мовы ў бельскім ліцэі, Ян Канапелька — візітатар з Куратарыум, Віктар Швед — паэт, Аляксандр Іванюк — настаўнік з Гайнаўкі, Васіль Сакоўскі — настаўнік беларускай мовы ў гайнаўскім ліцэі і Мікола Лобач — кіраўнік аддзела ГП.**

Фота А. Карпюк

(Працяг са стар. 1)

## 150 000 гадзін у студні

тым месцы каплічку. Упершыню аднак заглянула яму ў вочы пагроза новага «парадку». Аднавясковец, нямецкі цюцька заявіў:

— Будзеш хаваць бальшавіцкіх сабак — сам з імі ляжаш.

Як бы гэта не было дзіўным, але пасля вайны Стараберазова, якое расславілася на ўсю Польшчу і Беларусь дзейнасцю рэвалюцыйнай арганізацыі Грамады пастанавіла аддаць уладу над вёскаю Ёзіку Дарафеюку — містыку і аскету. Дарафеюк стаўся солтысам. У час пануючага ў краіне разладу і беспарадку пастанавіў завесці ў сваёй вёсцы парадак і лад. Разважаў рэальна, зусім не па-біблейску:

— Могуць прысці ўночы і забіць.

— Але ці ж я, салдат Чырвонай Арміі, Чырвонага флоту магу баяцца банды зладзеяў? Неяк напэўна з імі спраўлюся.

Пералічыўся аднак. Напалі ноччу, шасцёх, таўклі цяжкімі каменнямі, паламалі Дарафеюку рэбры, разбілі чэрап, толькі дзякуючы вынослівасці арганізма пазбег дзядзька Дарафеюк смерці.

І вось сядзім мы з ім. Дзядзька Дарафеюк гаворыць плаўна і прыгожа. Апісвае мне чацвёртае неба, у якім ён часта бываў падчас сваіх містычных трансаў.

— У чацвёртым небе горы аграмадныя, а на горах дубы векавечныя, а на дубах арлы святыя, магутныя. Адзін з арлоў прылятаў, браў маю душу і нёс па-над горамі. Бачыў я ангелаў кіруючых хмарамі, і атрады сілы самсонавай — «Краснай» Арміі, якая сцеражэ законаў Божых.

Расказ Дарафеюка прадаўжаецца. Казачныя міфічныя вобразы накопліваюцца, згушчаюцца і сам дзядзька Дарафеюк здаецца быць постаццю міфічнай, казачнай або біблейскай. Гэта аднак не так. Перада мною асоба вельмі канкрэтная: Ёзік Дарафеюк, грамадзянін вёскі Стараберазова, які заключае з прадпрыемствамі дагаворы, квітуе рахункі і будуе студні. Будуе прытым адмыслова, са знаўствам ўласцівасцей матэрыі, са знаўствам асноўных прынцыпаў механікі і фізікі.

Дзядзька Дарафеюк мае яшчэ адно жаданне. Хоча ў вялікаднае царкоўнае багаслужэнне ўвесці песню аб Чырвонай Арміі.

— Папы не згодзяцца, — заўважаю скептычна.

— Згодзяцца — я іх пераканаю, — тлумачыць дзядзька. А падумаўшы хвіліну, дадае:

— Калі ж не згодзяцца, зраблю інакш: закуплю паніхіду за загінуўшых воінаў Чырвонай Арміі. Тады мусяць служыць.

— А як вы навучыліся так адмыслова капаць студні? — пытаю на заканчэнне.

— Бачыце, — паясняе дзядзька, — калі я так маліўся, мне быў дадзены дар празорлівасці, і я, стаўшы на грунце, ведаў, як глыбока пад ім вада, і якая гэта вада і праз якія слаі трэба да яе прабівацца.

Няхай будзе і так. Важна, што ў 500 пабудаваных Дарафеюкам студнях маем сапраўды здаровую, чыстую і добрую ваду.

**Ул. Паўлючук**
Фота аўтара

## ЕДЗЕМ ЗАГРАНІЦУ

| L. p. | KRAJ | TRASA | Ilość miejsc | TERMIN WYCIECZKI | Cena zł | Termin zgłoszenia do ZP. ZW ZMW |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ZSRR | MOSKWA — KRYM — KIJÓW | 35 | 27.5 — 12.6 | 3.600 | 31.III. |
| 2 | RUMUNIA | MAMAIA — BUKARESZT | 27 | 26.7 — 10.8 | 3.100 | 30.IV |
| 3 | ZSRR | MOSKWA — IRKUCK — BRACK — BAJKAŁ | 2 | 8.08 — 21.8 | 5.800 | 15.V. |
| 4 | BUŁGARIA | SOFIA — PRIMORSKO — WARNA — BUKARESZT | 2 | 13.08 — 21.8 | 3.900 | 15.V. |
| 5 | WĘGRY | BALATONFELDWAR — BUDAPESZT | 2 | 20.08 — 31.08 | 2.500 | 15.V. |
| 6 | NRD | OBERHOF — ERFURT — LIPSK — BERLIN | 25 | 9.09 — 19.09 | 2.050 | 31.V. |
| 7 | CSRS | KARLOVE VARY — PRAHA | 35 | 15.9 — 23.09 | 1.750 | 31.V. |
| 8 | ZSRR | MOSKWA | 35 | 28.9 — 4.10 | 1.800 | 31.V. |
| 9 | ZSRR | MOSKWA—DUSZANBE—SAMARKANDA—TASZKIENT—MOSKWA | 2 | 18.10 — 31.10 | 4.900 | 15.VI. |
| 10 | ZSRR | MOSKWA | 35 | 18.12 — 24.12 | 1.800 | 30.VI. |
| 11 | ZSRR | KIJÓW — MOSKWA | 2 | 25.12 — 3.01 | 2.700 | 30.VI. |
| 12 | WĘGRY | BUDAPESZT | 2 | 29.12 — 4.01 | 1.950 | 30.VI. |
| 13 | CSRS | KARLOVE VARY — PRAHA | 1 | 29.12 — 3.01 | 1.670 | 30.VI. |
| 14 | WĘGRY[1] | BUDAPESZT — turystyka indywidualna | 20 | 6.09 — 10.9 | 1.550 | 31.V. |

**З маладзёжнымі арганізацыямі ЗМВ і ЗМС экскурсіі танныя, цікавыя, выгодныя. Ваяводскае праўленне ЗМВ сваім членам і супрацоўнікам прапануе такія экскурсіі.**

**Ехаць могуць маладыя ад 15 — 30 год.**

БЕЛАРУСІЯНА

## ВЯСЕЛЛЕ

У II томе часопіса: „Zeszyty etnograficzne muzeum kultury i Sztuki Ludowej w Warszawie". Ежы Дамрош апублікаваў артыкул на рускай мове пад загалоўкам: «Избранные проблемы из области свадебных обрядов в северо-восточной Польше и на польско-белорусской границе».

Аўтар артыкула аналізуе перамены ў вясельнай абрадавасці на працягу XIX і XX стагоддзяў. Перамены гэтыя вядуць пастаянна да скарочвання вясельнай абрадавасці і абеднення самога вяселля. На думку аўтара пераабразаванні гэтыя найлепш аддае цытат з выказванняў Лукаша Галэмбёўскага, які ў анансаваным артыкуле гучыць так: «Свадьба прапрадеда продолжалась неделю — на нее пошло 10 бочек вина: свадьба прадеда продолжалась 5 дней, вина — 7 бочек; деда — 3 дня, вина — 1 бочка; отца 24 часа, вина — 100 бутылок; сына — один вечер, шампанское пили только за ужином, состоящим со сладостей; последнее же обручение — тайное, пошло 12 чашек чаю». (Стар. 97).

У падсумаванні аўтар сцвярджае, што пераабразаванні вясельных абрадаў падобныя да сябе ў розных грамадскіх і этнічных групах, розны толькі тэмп гэтых пераабразаванняў, «...так, напрыклад, групы праваслаўнага насельніцтва больш кансерватыўныя, захоўваюць большую колькасць традыцыйных элементаў, чымсьці групы католікаў». (Стар. 98). (п)

## Меліярацыя ў Сямяціцкім павеце

Праўдзівая меліярацыя ў Сямяціцкім павеце пачалася ў 1955 годзе. З агульнай плошчы амаль дваццаць адной тысячы гектараў лугоў і сенажацяў зменіяравана дагэтуль усяго няцэлых сем тысяч гектараў. У бліжэйшы час плануецца зменіяраваць далейшых пяць тысяч гектараў лугоў і сенажацяў у Сямяціцкім павеце.

Поўнае загаспадараванне зменіяраваных абшараў адбылося ўжо на плошчы шасці з паловаю тысяч гектараў. Накосы на загаспадараваных сенажацях дасягнулі дзевяноста цэнтнераў сена з аднаго гектара.

Пяцігадовы план меліярацыі на 1966—70 гады прадбачвае правядзенне меліярацыі звыш тысячы гектараў сенажацяў і лугоў у аколіцы такіх вёсак, як Клюковічы, Вычаўкі, Літвінавічы. Будзе гэта каштаваць каля паўтара мільёна злотых.

Варта заўважыць, што меліярацыя не ўсюды адбываецца нармальна. Апрача некаторага арганізацыйнага балагану па віне меліярацыйных устаноў ёсць таксама выпадкі, калі самі гаспадары перашкаджаюць у належным правядзенні меліярацыйных работ. І гэта найбольш сумнае. Бо ж меліярацыя праводзіцца для дабра вёскі і павышэння яе гаспадарчага ўзроўню — для павышэння даходаў з гаспадарак.

Нягледзячы на значнае зацікаўленне гэтымі справамі з боку грамадскіх рад не ўдаецца перамагчы гэтых перашкод. (ся)

## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**Што чытаць?**

**Васіль Вітка**
**«ПАВЕРКА»**
Вершы, паэмы, казкі, п'есы, апавяданні.
Старонак 372.

**Аркадзь Чэрнышэвіч**
**«ПРАЗ ЗІМЫ І ВЁСНЫ»**
Апавяданні аб сям'і, каханні і суадносінах паміж людзьмі.
Старонак 196.

**Язэп Пушча**
**ВЕРШЫ І ПАЭМЫ.**
Сабраныя з розных гадоў. Старонак 244.

**Мікола Ваданосаў**
**«ПЕРАЛОМНАЕ ЛЕТА»**
Гэта загаловак аповесці з жыцця моладзі. У кніжку, якая мае 216 старонак, уваходзяць яшчэ чатыры апавяданні.

**Рыгор Мурашка**
**«СЫН».**
Раман аб маладых у час рэвалюцыі, барацьба з існуючым ладам. Герой — сын Ігнась, выходца з вёскі, гартуецца як змагар у горадзе. Старонак 488.

**Мікола Лупсякоў**
**«ПАЯДЫНАК»**
Апавяданне пра вёску і яе быт. Старонак 202.

**Ігнат Дуброўскі**
**«ЗЯМЛЯ МАЛАДЗЕЕ»**
Аповесць пра савецкіх людзей. Старонак 270.

**У МЕСЯЦЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАМЯЦІ***

## Злачынцам няма даравання

Найбольшы ілгун свету міністр Гебельс пераконваў усіх, што віноўніцай выклікання другой сусветнай вайны была польская дзяржава, якая, быццам бы сваёй упартасцю пагражала нямецкаму рэйху. Немцы, маўляў, вымушаны былі толькі бараніцца. І вось цяпер вывады некаторых заходнегерманскіх вучоных, на дзіва, вельмі супадаюць са сцвярджэннямі іхняга настаўніка.

Працуюць у ФРГ цэлыя навуковыя інстытуты, якія стаўляць сабе як галоўную мэту: «выявіць гістарычную праўду», што на практыцы абазначае зусім адваротнае.

Ёсць факты, якіх не падкапаеш найбольш вучонай хлуснёй. Тады заходнегерманскія спецыялісты ад прапаганды са шкадаваннем раскладаюць рукі і гавораць: што ж, гэта ж была вайна, а ў час вайны ўсялякае здараецца.

І на доказ гэтага Федэральнае міністэрства справядлівасці супольна з навуковымі інстытутамі выпускае ў свет васьмітомнік пад загалоўкам „Vertreibungs Verluste" («Затраты выгнання»), у якім аўтары намагаюцца даказаць, **што вінаватыя не толькі немцы, што такіх жа самых злачынстваў у адносінах да немцаў дапускаліся палякі, рускія, чэхі і іншыя акупіраваныя Германіяй народы.**

29 кастрычніка 1965 года адбылася ў горадзе Брэмен канферэнцыя міністраў справядлівасці паасобных правінцый ФРГ. Міністры аднагалосна вынеслі рэзалюцыю адносна таго, што гэтыя «злачынствы» не трацяць сваёй даўнасці і падвяргаюцца пакаранню. У след за гэтым заходнегерманскія пракуроры атрымалі адпаведныя загады, каб, адначасова з выяўленнем фашысцкіх забойцаў, **вялі доследы па выяўленню «злачынцаў» віноўных пакрыўджання немцаў.** Савецкі ці польскі партызан з'яўляецца для іх злачынцам такім жа самым, як кат СС ці гестапа. Калі б знайшоўся ён на тэрыторыі ФРГ, яго — згодна з законам гэтай «дэмакратычнай» дзяржавы — можна арыштаваць і асудзіць «за злачынствы ў адносінах да нямецкага народа».

Бундэстаг — заходнегерманскі парламент — пад націскам сусветнай апініі прадоўжыў да канца 1969 года праследванне гітлераўскіх катаў. Як гэта адбываецца на практыцы, можам сабе прадставіць хаця б з рэпартажаў Аляксандра Амільяновіча («Беластоцкая газета»), які выступаў перад судом у Білефельд у якасці сведкі.

А ўсё ж, нягледзячы на гэта, трэба зрабіць усё, што толькі магчымае, каб мага найбольш гітлераўскіх злачынцаў знайшлося пад ключом.

Беласточчына дзеля гэтага мае асаблівае права. Уладар жыцця і смерці жыхараў нашай зямлі ў час акупацыі — Эрых Кох, устанаўляючы нямецкую адміністрацыю на Беласточчыне, заявіў сваім падуладным: **«Мая мэта — выслаць з Беласточчыны ў Германію най-**

**Акружаная гітлераўцамі гарыць вёска Райск (Бельскі павет), у якой было расстраляных 146 жыхараў.**

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII класа

## НАША ДРУЖБА МОЦНА ЯК НІКОЛІ

Дарагія таварышы! Дазвольце мне шчыра падзякаваць Вам за высокую ўзнагароду, якую мне прызнала Галоўнае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы за пашырэнне польскай культуры ў СССР.

Узнагароду гэтую, адну з самых дарагіх майму сэрцу, я лічу ўзнагародай майму народу, для якога мова і песня, літаратура і мастацтва братняга польскага народа былі заўсёды блізкімі. Я гэтую ўзнагароду лічу ўзнагародай народу яшчэ і таму, што нават самы большы ўклад любога з нас, гэта толькі кропля ў моры спраў і заслуг народных.

Вечна жывое дрэва дружбы польскага і беларускага народаў глыбока закаранілася ў нашай зямлі, дзе беларускімі песнямі і легендамі былі навеяны многія творы Адама Міцкевіча, яго «Балады і рамансы», сцэны з «Дзядаў», вобразы з яго велічнай эпапеі «Пан Тадэуш». Песнямі беларускай зямлі былі навеяны і шматлікія творы Сыракомлі, незабыўныя вобразы герояў Элізы Ажэшка і цудоўныя мелодыі «Векавых песень», «Літоўскай рапсодыі» Мечыслава Карловіча.

Вядома, што эксплуататарскія класы сваёй антынароднай палітыкай не раз стараліся пасеяць нязгоду паміж нашымі народамі, хоць паміж працоўнымі ніколі не было ніякіх супярэчнасцей.

Лепшыя сыны рускага і польскага, беларускага і ўкраінскага народаў былі заўсёды звязаны вузамі братэрства. Пушкін і Міцкевіч, Герцэн, Шаўчэнка, Серакоўскі, Ажэшка, Каліноўскі, Багушэвіч — вось тыя некаторыя слаўныя імёны мінулага, якія з любоўю і пашанай мы вымаўляем заўсёды.

Асабліва старалася пасеяць розьнь рэакцыйная кліка санацыі. Але і ў тое змрочнае дваццацігоддзе яе бясслаўнага панавання ёй не ўдалося разбіць нашага адзінства. Ці ж не аб гэтым гавораць рэвалюцыйныя выступленні рабочых Варшавы і Кракава, Заглэмбя Дамброўскага, барыкады Львова, сялянскія забастоўкі трыццатых гадоў? На роўных частках дзялілі мы ў тыя дні за кратамі астрогаў свой турэмны паёк.

У агні супольнай барацьбы зарадзілася наша дружба: крывёй лепшых сыноў польскага народа і народаў Савецкага Саюза яна цэментавалася, на палях пад Леніна, на берагах Віслы, вяршынах Карпат.

Мне хочацца падзякаваць за гэту ўзнагароду нашым братам па зброі, з кім мы разам дзялілі цяжкасці паходнага жыцця, свой хлеб і набоі, падзякаваць гераічнаму польскаму народу, яго баявой партыі, яго ўраду.

Радасна жыць і тварыць у эпоху, калі непераможныя ленінскія ідэі дружбы і міру, ідэі сацыялізма азараюць наш шлях.

На долю нашага пакалення выпала шмат цяжкасцей, але выпала і вялікае шчасце: будаваць новы свет, азораны Кастрычнікам, разарваць старыя межы, якія дзялілі народы, стварыць новыя песні, якія злучаюць нашы далоні і сэрцы, даць мастацтва, якое акрыляе чалавека на новыя подзвігі. Яшчэ ніколі наша дружба не расцвітала так, як у нашы часы, з кожным годам усё больш умацоўваюцца культурныя сувязі паміж польскім народам і народамі Савецкага Саюза. Будзем жа і далей мацаваць нашу дружбу. Яна патрэбна ўсім нам як хлеб і сонца, яна патрэбна, каб пераможна крочыць па светламу шляху сацыялізма, яна неабходна ўсім нашым сябрам, якія ва ўсім свеце разам з намі змагаюцца за вялікую справу міру.

Дарагія таварышы! Я меў шчасце не раз быць у сталіцы братняга польскага народа. Быў і тады, калі разам з усім польскім народам атрады і нашых юнакоў і дзяўчат з Масквы і Ленінграда, Сталінграда, і Кіева, з маёй Беларусі, не глядзячы на тое, што самі яшчэ жылі тады ў разбітых гарадах, у партызанскіх зямлянках, памагалі польскаму народу падымаць з руін Варшаву. Яны клалі цэглу ў гранітны фундамент нашай дружбы.

Дазвольце ж, таварышы, шчыра падзякаваць Вам за вялікую аказаную нам чэсць і папрасіць Вас, каб і наша грашавая прэмія была пакладзена як цагліна ў дарагія нашаму сэрцу муры Варшавы.

**Максім Танк**

Прамова на ўрачыстасці ўручэння ўзнагароды ТПП-Р.

1. На якія традыцыі польска-савецкай дружбы спасылаецца аўтар?
2. Што ведаеш аб дзеячах і пісьменніках названых Танкам і акрэсленых ім «лепшымі сынамі рускага і польскага, беларускага і ўкраінскага народаў?»
3. Як ацэньваеш факт перадачы Танкам усёй узнагароды (25.000 зл.), якую атрымаў ён ад Галоўнага праўлення ТППР, на адбудову Варшавы?
4. Паспрабуй напісаць кароткую прамову на даволна выбраную тэму, вывучы яе і выступі не карыстаючыся тэкстам.

# ІХ І ЯЕ СВЯТА

Ёсць дні, якія асабліва адзначае Беласточчына. Такім святам з'яўляецца **Дзень Тэкстыльшчыка.** Гэта звязана не толькі з гісторыяй тэкстыльнага промыслу на Беласточчыне, але ў асноўным з яго сучаснасцю. Гордасцю беластоцкага тэкстыльнага промыслу з'яўляецца **камбінат Фасты**, які зараз далей разбудоўваецца. Ужо тут працуе больш 3 тысяч людзей, а будзе працаваць яшчэ больш. **Усіх іх віншуем з нагоды Дня Тэкстыльшчыка і жадаем як найлепшых поспехаў у жыцці.**

Пазнаёмімся з адной з трохтысячнага калектыву фабрыкі. **Яўгіняй Гермала** (гл. здымак на стар. 1), прадзільшчыцай фастаўскага камбіната. Штопраўда ў яе яшчэ не юбілей, будзе яго адзначаць у наступным годзе, але ёсць многа іншых прычын, дзеля якіх складаем ёй віншаванні.

Прадзільшчыца Я. Гермала працу ў камбінаце пачала 4.IV.1958 года. Спачатку была вучаніцай, потым «абцянгачкай» і ўрэшце прадзільшчыцай.

— Такую дарогу праходзіць кожная прадзільшчыца, — гаворыць дыспетчар, у якога на змене працуе Я. Гермала.

Розныя і па рознаму вучацца гэтай прафесіі, але Я. Гермала пасля паўгадовага стажу ўжо сталася кваліфікаванай прадзільшчыцай.

У камбінаце кіпіць работа. Тут няма часу на даўжэйшыя размовы, і таму прывяду далей некалькі выказванняў дыспетчара аб Я. Гермала:

— Пані Гермала з'яўляецца дысцыплінаванай і дбае аб якасць прадукцыі. Заўсёды выконвае норму ад 115% — 120, а нават 130%. Актыўна працуе ў ЗМС, з'яўляецца старшынёй групы I змены. Група ЗМС якраз і трымае кантроль над прадукцыяй эляны. Я. Гермала сяброўская і стараецца дапамагаць тым, хто дапамогі патрабуе. Дзякуючы гэтаму ўсяму Я. Гермала ў нас вельмі хутка авансавала.

Скромна, коратка і ясна. Працэнты, дысцыплінаванасць і грамадская праца амаль усё гавораць.

Мы хочам дадаць, што **Я. Гермала мае час не толькі на грамадскую працу ў прадпрыемстве. Даўным даўно наладзіла яна цесную сувязь з БГКТ. У свой час была актыўным членам хору, а зараз з'яўляецца членам Праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.**

А. К.

**большую колькасць людзей здольных да працы, а рэшту сцерці з паверхні зямлі».** Больш ясна не можна было сказаць. У выніку гэтага на Беласточчыне было забітых: **240 тысяч савецкіх ваеннапалонных, 130 тысяч яўрэяў і 190 тысяч цывільных асоб другіх нацыянальнасцей.**

Каты яшчэ жывуць. Іх неабходна выяўляць. Гэты цяжкі і складаны абавязак прыняла на сябе Акруговая камісія па даследванню гітлераўскіх злачынцаў, якая дзейнічае пры Ваяводскім судзе ў Беластоку. Ужо другі год збірае яна дакументы, паказанні і інфармацыі, якія маглі б дапамагчы абвінавацць фашысцкіх злачынцаў, пражываючых зараз у ФРГ і ў іншых краінах свету.

Не ўсё, на жаль, можна зараз устанавіць. Патрэбная шырокая дапамога людзей, асабліва тых, хто перажыў трагедыю. Кожная вестка тут вельмі важная. Не можа быць памілавання для гітлераўскіх катаў. На іх руках надта ж хутка высахла наша кроў.

**В. Рудчык**

член Акруговай камісіі па даследванню гітлераўскіх злачынстваў

*) Міжнародная федэрацыя руху супраціўлення прыняла пастанову, каб красавік кожнага году быў месяцам міжнароднай салідарнасці камбатантаў II сусветнай вайны, членаў руху супраціўлення і вязняў гітлераўскіх лагераў смерці. У Польшчы ад некалькі год красавік з'яўляецца месяцам Нацыянальнай Памяці.

## Беласточчына ў ліках

Статыстычныя гадавікі, якія выдае штогод Ваяводскае статыстычнае бюро ў Беластоку, з года ў год павышаюць свой узровень і інфармацыйны змест. З'яўляюцца яны неабходным, дапаможнікам для кожнага, хто хоча вывучаць паасобныя праблемы Беластоцкага ваяводства. Выдадзены нядаўна «Rocznik statystyczny województwa białostockiego 1966» налічвае каля 600 старонак і змяшчае некалькі соцен статыстычных табліц, паказваючых розныя бакі жыцця ваяводства. Дзіўна толькі, што ў гадавіку не знойдзем амаль ніякага адлюстравання з'яў для нашага ваяводства даволі характэрнай: яго шматнацыянальнай структуры. З гадавіка нічога, напрыклад, не даведаемся аб беларусах. Няма іх ні ў раздзеле аб насельніцтве, ні ў раздзеле аб школьніцтве (вядома, што існуюць на Беласточчыне беларускія школы), ні ў раздзеле аб культуры (культурная дзейнасць нацыянальных меншасцей з'яўляецца адной з характэрных рысаў ваяводства). Слова «беларускі» паяўляецца ў гадавіку адзін толькі раз: пры пераліку арганізацый, таварыстваў і аб'яднанняў дзейнічаючых у Беластоку. (п)

## Якім будзе клуб на Варшаўскай

Адна цяпер думка свеціць усім зацікаўленым гэтым клубам, упарадкаваным, п р ы т у л ь н ы м, з цікава арганізаванай працай.

Сярод моладзі, якая сюды масава плыве, пануе туга за спакоем клубнага століка, за ветлівай і мілай усмешкай.

Ужо ў разбіральні ля ўвахода стаіць пастаянны наш прыяцель **Кузьмін.** Як усюды на свеце, так і тут, за 50 грошы пакідаецца цяжкае пальто і свабодна адпачываецца.

Неўзабаве загаспадарыцца прыгожа вялікую залу. Дагэтуль тут вее холадам і няўтульнасцю. Пры дапамозе некалькіх метраў каляровага палатна і ахвотных рук сваіх членаў, клуб зменіцца ў месца з прыемным настроем. Будуць тут столікі для кавы, будуць куткі для брыджа і шахматаў. Тут будзе більярд, і бадай тут стане тэлевізар.

Людзі хочуць перачараваць гэтую вялікую залу так, каб уміг яе можна было змяніць на месца для акадэміі ці высвятлення фільмаў.

Якім будзе клуб на Варшаўскай 11, залежыць ад многіх, усіх. Але тое, што пачалося і задумалася, будзе добра клубу служыць, каб яго добрая слава шырока разыходзілася ў горадзе і далёка за ім. (вл)

З МІНУЛАГА

## Пра Багушэвіча і сяброў

Выдатны беларускі паэт Францішак Багушэвіч быў паўстанцам Кастуся Каліноўскага. Цудам уцалеў, дзякуючы дапамозе Яна Карловіча — вядомага потым дзеяча польскай культуры. Багушэвіч усё жыццё сябраваў і карэспандаваў з Карловічам, які вельмі многа дапамог яму ў беларускай дзейнасці. Францішак Багушэвіч стаяў на чале беларускага нацыянальнага руху 80—90 гадоў мінулага стагоддзя.

Багушэвіч быў таленавітым адвакатам і мог багата жыць. Ён шмат часу траціў на пісанне вершаў на беларускай мове, церпячы насмешкі ад знаёмых грашаробаў, якія лічылі яго «прапашчым дзіваком». Францішак Багушэвіч меў вялікую маральную падтрымку ад Алаізы Ажэшка, бываў у яе не раз, выходзіў ад яе з яшчэ больш загартаванай воляй змагацца за беларускую літаратуру, за правы беларускаму слову. Напісаў ён ёй верш — «Яснавяльможнай пані Арэшчысе».

Францішак Багушэвіч паставіў справу стварэння беларускага слоўніка і беларускай граматыкі. Вакол яго пачалі групавацца ўсе, каму ляжаў на сэрцы лёс Беларусі. Карловіч горача падтрымаў гэту ініцыятыву.

Шмат дапамог Багушэвічу буйны польскі адвакат Тадэуш Врублеўскі, дзядзька якога — Валеры Врублеўскі — быў сябрам Кастуся Каліноўскага, генералам Парыжскай камуны. Тадэуш Врублеўскі перахаваў шмат вершаў Багушэвіча, памагаў беларускаму руху, у пазнейшы час бараніў на судзе Якуба Коласа і Цётку-Пашкевіч. Тадэуш Врублеўскі быў рэдактарам дэкрэтаў першага Савецкага ўрада Літвы і Беларусі ў 1918—1919 гадах.

І так, беларускі нацыянальны рух, хаця і найслабейшы з усіх іншых, перажыў толькі кароткі час свайго перапынку. Сталася гэта пасля разгрому паўстання 1863 года. У аколіцы 1880 года з'явіўся Францішак Багушэвіч са сваімі беларускімі вершамі. Праўдападобна пісаў ён іх і раней. Амаль разам з Багушэвічам з'явілася цэлая плеяда нацыянальных аднадумцаў — праф. Карскі, этнограф Раманаў, гісторык Доўнар-Запольскі і інш. (ся)

УВАГА НАСТАЎНІКІ І ВУЧНІ!

## Выйшаў новы падручнік

**З прыемнасцю паведамляем усіх зацікаўленых, што выйшаў з друку першы падручнік беларускай мовы, складзены паводле новай праграмы. Гэта: «Беларускае слова» для пятага класа, аўтарамі якога з'яўляюцца Лідзія і Мікола Гайдукі. Вокладку праектаваў Андрэй Кавалеўскі, а ілюстраваў Мечыслаў Квач, рэдактарам з'яўляецца Ванда Суднік. Гэта першае выданне, тыраж якога выносіць 3000 экземпляраў. Цана экземпляра — 13 зл.**

**Змест падручніка складае сем частак: У час працы і адпачынку, З мінуўшчыны, Зімовымі днямі, Гады змаганняў і перамог, Подых вясны, У краінах блізкіх і далёкіх і Летам. Такая развязка павінна быць выгаднай і настаўніку і вучням з метадычнага пункту гледжання, таму, што яна звязана з храналогіяй жыцця вучня.**

**Вельмі дапаможнымі павінны быць змешчаныя ў канцы падручніка даведкі аб аўтарах і слоўнік.**

**Падручнік мае многа ілюстрацый і фотаздымкаў. Здаецца, толькі, калі разыходзіцца аб малюнкі, не ўсе яны добрыя таму, што не прадстаўляюць сабой стыхіі жыцця (напр. на стар. 203).**

**Найлепшым крытыкам падручніка акажацца практыка. Важнае, аднак тое, што ён ужо ёсць і што першыя ўражанні прыемныя. (ак)**

## БГКТ

(Працяг са стар. 1)

**інтэлігенцыі** пражываючай у Беластоку. Сустрэчу вяла сакратар Праўлення гарадскога аддзела рэд. **Вера Валкавыцкая**, а з дакладам выступіў **мгр Уладзімір Паўлючук.**

Гэтая першая такога тыпу сустрэча выклікала вялікае зацікаўленне сярод пражываючай у Беластоку беларускай інтэлігенцыі. Сустрэлася больш 60 асоб, якія ў часе дыскусіі выразілі жаданне сустракацца сістэматычна на тое, каб навучыцца роднага слова, гісторыі і пашыраць беларускую культуру. У часе сустрэчы выступілі аматары спевакі і рэцытатары.

### У ІНСТРУКТАРАЎ

Інструктары ГП адбылі чарговую нараду. Вырашалася тут справы дзейнасці ў бліжэйшы перыяд. Асноўнай справай зараз з'яўляецца правядзенне аглядаў драмгурткоў і падрыхтоўка да святкавання «Дні асветы, кніжкі і друку». У сувязі з 50-годдзем Вялікага Кастрычніка і 25 гадавінай ППР штатныя працаўнікі Таварыства забавязаліся чынам наладзіць электрычнае святло ў музеі ў Белавежы і ў далейшым грамадска збіраць экспанаты ў музей.

А. К.

 



# „АЛЬПІЙСКАЯ БАЛАДА"

**Беларускі фільм «Альпійская балада», зроблены па аднайменнай аповесці гродзенскага пісьменніка Васіля Быкава, ацэнены высока. Галоўныя ролі іграюць маскоўскія артысты Любоў Румянцава і Станіслаў Любшын.**

**Фільм расказвае аб тым, як уцякалі з нямецкай няволі беларускі салдат Цярэшка і італьянская дзяўчына Джулія.**

**(а-ся)**



НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# У КІТАІ

Французскі часопіс «Монд Дыплёматык» надрукаваў артыкул аб нацыянальных меншасцях і нацыянальнай праблематыцы Кітая.

Аўтар артыкула сцвярджае, што ў Кітаі знаходзіцца вельмі многа невялікіх нацыянальных груп (налічваецца каля 60 такіх груп), якія ў суме складаюць каля 7 працэнтаў усяго насельніцтва Кітая.

Размешчаны яны аднак у стратэгічна вельмі важных раёнах і складаюць там даволі значны працэнт насельніцтва. Далей артыкул аналізуе палітыку Кітая ў адносінах да гэтых меншасцей.

Гэтая палітыка пачаткова вялася па прыкладу нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюза, мэтай яе было развіццё культур «нацыянальных па форме і сацыялістычных па зместу». Даўжэй аўтар затрымоўваецца на праблеме алфавіту — асабліва тых народаў, якія да сацыялістычнай рэвалюцыі ў Кітаі не мелі ўласнай пісьменнасці. Пачаткова апрацоўвалася для іх пры дапамозе спецыялістаў з СССР алфавіт абапёрты на кірыліцы. У 1957 годзе падыход да справы радыкальна змяніўся і кітайскія нацыянальныя меншасці пачалі ўводзіць у свой алфавіт лацінку.

Асноўная змена ў адносінах Пекіна да нацыянальных меншасцей адбылася на думку аўтара ў 1964 годзе. Ад гэтага года галоўнай мэтай кітайскай нацыянальнай палітыкі сталася ліквідацыя ўсялякай нацыянальнай спецыфікі. Рэалізацыя гэтай палітыкі ў сучаснай сітуацыі можа, на думку аўтара, давесці да новых палітычных ускладненняў з увагі на тое, што нацыянальныя меншасці размешчаны ў правінцыях «асноўнага стратэгічнага значэння». (п)

# Тайны японскіх астравоў

Адно японскае судна, як заўсёды, адправілася на воды заходняй часткі Ціхага акіяна за лоўляй караляў. І назад ужо не вярнулася. Ніхто дагэтуль не ведае, дзе яно прапала. У адным толькі ўпэўнены японскія суднаплавацелі: **няшчаснае судна не патанула.** Японскія ўлады дзяржаўнай бяспекі прышлі да вываду, што: «Судна праўдападобна пераняў ваенны флот ЗША ў момант, калі яно прыблізілася да вострава Ціцідзіма, які ўваходзіць у састаў астравоў архіпелага Бонін. Гэты архіпелаг знаходзіцца пад асабліва завостраным амерыканскім кантролем і аховай».

Асабліва востра ахраняюцца астравы Ціцідзіма і Газадзіма. Гэта таму, што на гэтых астравах амерыканцы абсталявалі аграмадныя склады ядзерных бомб. Гэтая смерценосная атамная зброя прызначана для самалётаў і ваенных суднаў славутага VII амерыканскага марскога флота, які зараз вядзе крывавую вайну ў В'етнаме. Супольна з астравамі Акінава і Гуан ствараюць яны ў Японіі амерыканскі атамны арсенал, пры дапамозе якога амерыканская генеральшчына намагаецца запалохаць народы Азіі і Акіяніі.

Гэта выклікае гнеў самых японцаў. На іх жа долю прыпала няшчасце перацярпець першую ў свеце атамную бамбёжку. Таму часта ў японскіх гарадах успыхваюць антыамерыканскія дэманстрацыі. Асабліва тады, калі ў японскіх партах паяўляюцца атамныя падводныя лодкі. Вось у маі мінулага года, калі ў порт Ёкосука прыплыла амерыканская падводная атамная лодка «Сноўк», спатрэбілася аж 5 тысяч японскіх паліцэйскіх, каб «уціхамірыць» дэманстрантаў.

Таямніча прапаўшае рыбацкае судна яшчэ болей насцярожыла японцаў. Тым больш, што разышлася вестка, што для звыш трох тысяч японскіх рыбакоў будзе забаронена лавіць рыбу ў раёне Касмуінга-Ура — недалёка сталіцы Токіо Амерыканская армія патрабуе новых прастораў для сваіх баз. (а-вр)

ПАРАДЫ ЛЕКАРА

# СКЛЕРОЗ

Склероз — хвароба вельмі распаўсюджаная. Ею хварэюць людзі ў старэйшых гадах і найчасцей тыя, што не працуюць фізічна. Сярод многіх прычын у развіцці гэтай хваробы асаблівую ролю адыгрывае павышаная колькасць тлушчавых цел у крыві і перш за ўсё халестэролю, які знаходзіцца ў тлушчу. Целы гэтыя адкладаюцца на ўнутранай абалонцы артэрыі. Гэтым самым зменшваюць яны эластычнасць артэрыі, што ў сваю чаргу пагаршае доступ крыві і добрае функцыянірванне асобных органаў. Справа ў тым, што кожная фізічная або разумовая праца патрабуе павялічанага паступлення крыві да працуючых органаў, а змененыя, хворыя артэрыі не могуць з гэтым справіцца, г. зн., не могуць правільна расшырацца і дастаўляць патрэбную колькасць крыві да працуючых органаў.

Павышаны ўзровень халестэролю ў крыві адыгрывае асноўную ролю ў развіцці гэтай хваробы. Таму прадухіленне яе заключаецца ў тым, каб абніжаць узровень халестэролю шляхам змяншэння яго падачы ў харчаванні. Неабходна ў гэтым выпадку даўжэйшы час утрымоўваць дыету, у якой позбягаць жывёльных тлушчаў.

Тлушч з рыб зусім не шкодны. Эскімосы харчуюцца ў асноўным марскімі рыбамі. У іх вельмі рэдка бывае склероз.

Варта памятаць і тое, што спажыванне надмернай колькасці ежы, нават нятлустай, пагаршае стан хваробы. А фізічная праца, гімнастыка, спорт і каларыйнае абмежаванне ежы абніжаюць колькасць халестэролю ў крыві. Трэба спажываць столькі ежы, каб толькі пакрываць запатрабаванне арганізма ў энергіі. Важна таксама і тое, каб не прыбываць на вазе.

Далейшае месца ў лячэнні займаюць вітаміны і лекі, якія стрымліваюць развіццё склерозу ў арганізме: вітаміны $B_6$, $B_{12}$, C, а з лекаў: халіна, гэпарына, гіпастэроль, жаночыя гармоны і іншыя лекі. (ях)

# Камандзіроўка за блохамі

Трусікі паявіліся ў Аўстраліі ўсяго 80 год таму назад і так буйна там размножыліся, што, як саранча, сталі пагражаць пашам, на якіх гадуюцца славутыя высокаякаснай воўнай аўстралійскія авечкі. Не памаглі самыя суровыя спосабы вынішчэння трусікаў.

На ратунак прышлі вучоныя мікрабіёлагі. Яны заўважылі, што трусы, як людзі халеры, баяцца хваробы, якая па-вучонаму называецца **«міксаматоз»**. Узнікла праблема: як падарыць трусікам гэтую хваробу? Было вядома, што пераносяць яе камары, але камары водзяцца ў балоце, якога трусікі наогул не любяць.

Пасля многіх вопытаў было ўстаноўлена, што «міксаматоз» могуць пераносіць блохі, асабліва іх іспанскія сяброўкі. Астаецца толькі адправіцца ў Іспанію, каб прывезці адпаведную колькасць блох на расплод. (а-вр)

У СВЕЦЕ ПЛАСТМАС

# Не гарыць і не мерзне

Савецкія тэхнолагі апрацавалі новы від пластмасавага матэрыялу, які адзначаецца вельмі карыснымі ўласцівасцямі Ён захоўвае эластычнасць пры тэмпературы 183 градусаў ніжэй нуля і не плавіцца ў тэмпературы плюс 327 градусаў. Так устойлівага на тэмпературу пластмасавага матэрыялу не было дагэтуль у свеце. З практыкі вядома, што папулярныя пластмасавыя вырабы ўжо на невялікім марозе замярзаюць на «косць», а летам на сонцы разаграваюцца і трацяць сваю механічную ўстойлівасць.

Новая савецкая пластмаса абазначана сімваламі: ПМ і ПФГ. Яна ў некаторых выпадках можа падмяняць мяккую сталь. (а-вр)

ГАРДОН ЛОНСДЭЙЛ




**Пра характар работы, якую выконвала ў ЗША група пад кіраўніцтвам Алека, Гардон Лонсдэйл піша:**

**«Заходні друк спрабуе звычайна стварыць уражанне, быццам мэты савецкай разведкі носяць выключна ваенны характар. Такое сцвярджэнне вельмі далёкае ад сапраўднасці. Галоўныя мэты арганізацыі Алека амаль цалкам насілі палітычны характар.**

**Для міралюбівых народаў жыццёва неабходна мець дакладныя звесткі аб задумах падпальшчыкаў вайны ў ЗША. У гэтым напрамку робіцца вельмі многае, гэтаму падпарадкавана і разведвальная дзейнасць.**

**Нашай галоўнай задачай быў збор інфармацыі аб нацыстах, якія працуюць у Злучаных Штатах. Асаблівую ўвагу мы сканцэнтравалі на некалькіх былых нацысцкіх разведчыках, якія прывезлі з сабой архівы і звесткі аб гітлераўскіх агентах часоў сусветнай вайны. Мы мелі дакладныя даныя аб тым, што гэтыя людзі цесна звязаны з рэваншысцкімі элементамі ФРГ, якія лічылі, што лепшы шлях да вяртання былой магутнасці — гэта вайна паміж Злучанымі Штатамі і Савецкім Саюзам. Дзеля дасягнення гэтай мэты не пагарджалі нічым. Іх дзейнасць была тым больш небяспечнай таму, што яе падтрымлівалі «шалёныя» ў амерыканскай урадавай машыне, яны выкарыстоўвалі любую прычыну для раздзімання ваеннага псіхозу. Многа такіх «шалёных» было ў Пентагоне. Трэба было таксама здабываць інфармацыю аб падрыўной дзейнасці ЦРУ ў сацыялістычных краінах.**

**Я з задавальненнем успамінаю нашу работу ў часе вайны ў Карэі. Даныя, здабытыя намі тады, адыгралі вялікую ролю ў справе захавання свету ад атамнай катастрофы.**

**Нам пашчаслівілася своечасова атрымаць інфармацыю аб планах генерала Макартура, які збіраўся перанесці ваенныя дзеянні на тэрыторыю Кітая.**

**Гэтым планам не суджана было здзейсніцца, бо нашы своечасовыя контрмеры прымусілі тагачаснага прэзідэнта ЗША Трумэна адступіць ад краю бездані».**

**Гардон Лонсдэйл расказвае далей аб рабоце ў ЗША:**

**«Такім чынам, аб сустрэчы з Алекам у Сентрал-парку. Ён папярэдзіў мяне, што мы павінны бачыцца вельмі рэдка. Замест сустрэч мы выкарыстоўвалі тайнікі, размяшчэнне якіх паведаміў мне Алек. Такім тайнікам быў, напрыклад, невялікі душнік на сцяне аднаго магазіна на маленькай вулачцы каля Бруклінскага моста. Я не павінен быў туды хадзіць да таго часу, пакуль не ўбачыў на агарожы суседняга парку намаляваны крэйдай маленькі крыжык. Праз некалькі дзён крыжык з'явіўся. Днём я агледзеў усё наўкола. Калі сцямнела і я пераканаўся, што за мной ніхто не сочыць, падышоў да тайніка і ўзяў пакет.**

**Разгарнуўшы яго дома, я ўбачыў 20 стодоларавых купюр і разабраны кароткахвалёвы перадатчык з дзесяціметровай антэнай. Гэта быў цудоўны апарат. Калі ён быў зманціраваны, я мог звязацца з любым куткам свету. На працягу параўнальна невялікага адрэзку часу мне ўдалося наладзіць сувязь з цэнтрам, а таксама ўнутры нашай сеткі. Наша сувязь стала рэгулярнай, і Алек пачаў даваць мне новыя заданні. Я, натуральна, не магу раскрыць змест гэтых заданняў, прывяду толькі некалькі метадаў, якія выкарыстоўваліся мною.**

**...Гульня ў шахматы вельмі папулярная ў Савецкім Саюзе. Я палюбіў шахматы ў час знаходжання сярод беларускіх партызан. У Нью-Иорку таксама часта хадзіў у Сентрал-парк. Калі я нахіляўся над дошкай, робячы выгляд, што сачу за гульнёй іншых, я вывучаў людзей, што акружалі мяне. Сярод шахматыстаў былі не толькі амерыканцы англа-саксонскага паходжання, тут можна было пачуць польскую, французскую і іншыя мовы. Іменна тут я пазнаёміўся з людзьмі, якія цікавілі мяне з прафесіянальнага пункту гледжання. Сярод іх быў адзін немец, які працаваў у важнай для мяне ўстанове. Неяк ён запрасіў мяне да сябе дамоў згуляць у шахматы. Вядома, не абышлося без бутэлькі віна, якое ён піў, паводле яго слоў, для творчага натхнення.**

**Гэты немец, назаву яго Гансам, заявіў, што хоць ён і не падзяляе маіх палітычных поглядаў (ён лічыў, што ведае іх!), усё ж рад са мной сустрэцца.**

**У яго я пазнаёміўся з другім немцам, Бертольдам, які працаваў разам з Гансам. Бертольд не цікавіўся шахматамі, яму падабаўся покер. Для яго гэта было згубнае захапленне, бо ён шмат прайграў. Я пазычаў яму грошы, і вельмі хутка ён пазычаў у мяне больш, чым мог бы калі-небудзь аддаць.**

**Любоў Бертольда да грошай у спалучэнні з заўзятай нянавісцю да ўсяго амерыканскага штурхнула яго ў мае абдымкі. На працягу некалькіх месяцаў ён акуратна забяспечваў мяне інфармацыяй і дакументамі аб падрыхтоўцы амерыканцаў да вайны, аб дзейнасці ЦРУ, накіраванай супроць сацыялістычных краін.**

**Другое цікавае знаёмства адбылося пасля атрымання мною задання ад Алека выкарыстаць інфармацыю Бертольда, дзе ўпаміналася імя аднаго з агентаў заходнегерманскай разведкі генера-**



 

Міхась ужо трэці раз бег да тэлефону, але, убачыўшы карэтку з чырвоным крыжам, уцешыўся і падняў руку. Таксоўка прытрымалася. А ў акне паказалася галава:

— То вы да нас званілі? — спытаў чалавек у белым фартуху.

— Так, пане дохтар. Гэта я званіў...

— А дзе вы жывеце?

— Там, далей... Аж у канцу вёскі...

— Ну то сядайце, паедзем, — напрасіў дохтар адчыняючы дзверы.

За хвілінку карэтка затрымалася каля Міхасёвай хаты. Дохтар узяў свой рукзак з прыладамі і пайшоў за Міхасём. Той хутчэй адчыніў дзверы ў сенцы і напрасіў заходзіць у хату.

— А чаго ў хату? — затрымаўся дохтар на парозе. — Хадзеце адразу да хлява?

— Не, пане! — Няскеміў Міхась. — У мяне жонка ляжыць у хаце... І ўрадзіць не можа.

— Але ж я тэхнік вэтэрынарыі! — засмяяўся чалавек у белым фартуху.

Міхась пабялеў і стаў перапрашаць, і прасіць, каб хоць ня было кары. Але ў гэты момант прыбег задыхаўшыся Мітрафан і павёў вэтэрынара да свае хворае свінкі. Павёз Міхась жонку балёнам да пункту здароўя. Але як разгуйдала яе на ухабінах, то на паўдарозі ўрадзіла. А Міхась завярнуўся і прывёз поўную кельню да хаты.

## Вінаваты фурман

А ў нядзельку рана пазбіраліся мужыкі ў Мітрафана на падворку і справу разбіраюць. Адзін смяецца з Міхасёвай памылкі. А Жэнік кажа: — Слабы то смех, хлопчыкі, бо бяды ніколі ў кумы праціць не трэба... І ў кожнага з нас можа быць такая памылка.

— Але, бачыце, як тэхнікі вэтэрынарыі з лячніцы звяроў карэткаю раз'язджаюць, а дохтар з пункту здароўя нават службовага веласіпеда не мае. Вось якая дбаласць! — застагнаў Салабай.

— Выходзіць так, хлопчыкі, што пра свіней цяпер лепш дбаюць, чым пра людзей! — скрывіўся Алёша Трапач.

— Ну так, бо каровы і коні маюць нават сваю абавязковую ўбеспячальню...

— Маюць то маюць, але хворая свіння сама ў лячніцу не пойдзе! А чалавек як прыхварэе, то ведае, што рабіць. Зараз спяшае да замовы, або йдзе да дохтара.

— Пойдзе, як мае грошы. Але як не мае?

— А хвароба нікога пра грошы не пытае, і плаціць за ўсё трэба.

— Ад лячніцы звяроў да нашай вёскі 6 км., а я вэтэрынару заплаціў рахунак за 18 км і квіток маю... — пажаліўся Мітрафан.

— Бо яны бяруць сюды і назад за даезды...

— Ага: Дзякую, што выясніў! А 6 і 6 то колькі па-твойму будзе?! Прыедуць да аднаго, абыдуць 5 гаспадароў. Бо ў мяне свіння, а ў другога карова. І кожнаму выстаўляюць рахунак за дарогу.

— Але за гэта іх жонкі ездзяць службовымі карэткамі ў Беласток па справункі.

— А папрабуй скажы катораму, то кожны зробіць вялікія і нявінныя вочы і з месца секане: — Мы пэцкаліся і кантраляваць лічнікаў для вас ня маем часу!

— І астанецца ў вінаватых фурман...

Цётка Мальвіна






Настаўнік на пенсіі:
— Марш дахаты і каб прышоў мне з бацькамі.

### ДОПЫТ

— Сведка, як ваша імя і прозвішча?

— Мікола Касаты.

— Колькі гадоў?

— Восемдзесят два.

— Дзеці ёсць?

— Нямашака.

— Сакратар, запішыце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам вядома ў гэтай справе.

— Іду я, значыцца, са сваім сынам Гаўрылам...

— Пачакайце. Вы ж казалі, што у вас дзяцей няма?

— Але, няма...

— Ну, кажыце далей.

— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...

— З сынам Гаўрылам? Вы ж кажаце, што ў вас дзяцей няма.

— Ну, няма.

— А сын Гаўрыла?

— Якое ж гэта дзіця?.. Яму ўжо пяцьдзесят гадоў стукнула.

### КАЛІ

— Чаму ты не пагаліўся? — злосна запыталася жонка ў мужа па дарозе ў тэатр.

— Як гэта не пагаліўся? Я галіўся.

— Калі ж гэта?

— Калі ты толькі пачала апранацца.

### СВІННЯ

Пахадзіла Свіння па задворках, на сметніку парылася, у лужыне павалялася. А потым, сустрэўшы Пеўня, з захапленнем расказвала:

— Вось дзе людзі жывуць! Гразі — колькі хочаш... А якія аб'едкі на сметнік выкідаюць!

Праз дзень на суседні двор трапіла. Капанула разы са два ў кветніку, аб вугал пачухалася і зарохкала незадаволена:

— Ну і культурн-а... Нават памыйнай ямы няма.

### ПРАЦА І ВЕЧНАСЦЬ

У асяроддзі паэтаў Сафокл неяк сказаў, што ён над трыма радкамі працуе чатыры дні.

— Чатыры дні? — здзівіўся паэт, вядомы сваімі пасрэднымі вершамі. — Я за чатыры дні напісаў бы тысячу радкоў.

— Не сумняваюся, — адказаў Сафокл. — Але яны пражывуць не больш, як чатыры дні.

### ЯК?

— Вы, відаць, не знаёмы з правіламі прыстойных паводзін. Я мог бы падараваць вам кнігу, дзе яны ўсе пералічаны.

— Я ахвотна прыняў бы такі падарунак, але як вы самі будзеце абыходзіцца без яе?

### ПА ЗВЫЧЦЫ

Мужчына ў зашмальцаваным капелюшы бярэ пляшку «Зуброўкі». Падаў прадаўшчыцы 104 злотых, чакае рэшты. Прадаўшчыца падала пакупку і вярнула назад сотню.

— Вы памыліліся, паважаная, — кажа мужчына.

— А яшчэ што? Усё вам не так!

— Паслухайце, вы...

— Не хачу і слухаць. Ходзяць тут усялякія!

— Паслухайце...

— Грамадзянін, не грубіце! Паклічу міліцыянера, Узяў і ідзі сабе.

На мужчыну звяртаюць увагу ўжо ўсе прысутныя, у поглядах — дакор. З вінаватым выглядам ён пайшоў з магазіна несучы пляшку і разам з ёю шчодрую рэшту.

### КОЛЬКІ

— Колькі я вам вінен? — пытаецца пацыент у зубнога ўрача пасля таго, як той вырваў зуб.

— 100 злотых.

— Пабойцеся Бога! Раней вы казалі, што гэта будзе каштаваць усяго 25 злотых!

— Казаў, але з-за вашага крыку з прыёмнага пакоя збеглі тры пацыенты.

„Rohac"

### ПАЧАСТАВАЎ

Зайшоў неяк Мікіта да свайго сябра, з якім даўно не бачыўся. Пагаварылі пра тое-сёе, час і развітвацца.

— Як ты не ў час прыйшоў, дружа! — паспачуваў гаспадар госцю. — Каб раней, дык паснедаў бы, пазней — абедаць у пару. А так — прабач.

### НЯЎЖО

Праслухаўшы лекцыю аб шкодзе алкаголю, адзін селянін усклікнуў:

— Няўжо ёсць такія людзі, якія ўжываюць гэты пракляты алкаголь у той час, калі можна піць цудоўную самаробную слівавіцу!



Партрэт пляткаркі.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Дзмітра Несцерука і Аляксандра Рэента з вёскі Новае Ляўкова, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

**ГДЕ ЖЕ ВЫ ТЕПЕРЬ, ДРУЗЬЯ — ОДНОПОЛЧАНЕ?**

Майскими короткими ночами,
Отгремев, закончились бои...
Где же вы теперь, друзья — однополчане,
Боевые спутники мои?

Я хожу в хороший час заката
У тесовых новеньких ворот,
Может, к нам сюда знакомого солдата
Ветерок попутный занесет?

Мы бы с ним припомнили, как жили,
Как теряли трудным верстам счет.
За победу б мы по полной осушили,
За друзей добавили б еще.

Если ты случайно не женатый,
Ты, дружок, нисколько не тужи:
Здесь у нас в районе, песнями богатом,
Девушки уж больно хороши.

Мы тебе колхозом дом построим,
Чтобы было видно по всему, —
Здесь живет семья советского героя,
Грудью защитившего страну.

Майскими короткими ночами,
Отгремев, закончились бои...
Где же вы теперь, друзья — однополчане,
Боевые спутники мои?..

## Курёзы

### СПОСАБ НА ПАЛІЦЫЮ

Аўтаінспекцыя амерыканскага горада Джасінта (штат Тэхсас) затрымала машыну Дзеда Мароза, які накіроўваўся раздаваць дзецям навагоднія падарункі, так як машына была перагружана пакетамі і магла паслужыць прычынай вулічнай катастрофы. Калі аб гэтым даведаліся дзеці, то, сабраўшыся ў суправаджэнні мамаў каля дома мэра, яны паднялі такі крык і плач, што паліцыі давялося тэрмінова вызваліць Дзеда Мароза.



### ПАЛЯЎНІЧЫЯ... НА КАРОЎ

Перад адкрыццём палявання на ласёў многія фермеры паўночнай Швецыі намалявалі жоўтай фарбай на баках сваіх кароў буйныя літары КО, што па-шведску азначае «карова». Зроблена гэта таму, што рассеяныя, падслепаватыя і занадта заўзятыя паляўнічыя штогод забіваюць шмат кароў, прымаючы іх у кустах за ласёў.

### НЕ ПЫТАЙЦЕ

На скрыжаванні аўтастрады ў штаце Кентукі на дзвярах невялікага доміка вісіць надпіс: «Не пытайце нас ні аб чым. Калі б мы што-небудзь ведалі, то не жылі б у гэтай глухамані».



Калі ты адчуваеш, што твой сябра хутка выб'ецца ў начальнікі, вітайся з ім па некалькі разоў на дзень. Ведай — пасля, магчыма, не давядзецца ні разу.